*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*


# Слонімскі край



2020, № 13(59). Лістапад-снежань


# Археалагічныя знаходкі ў цэнтры Слоніма ў 1936 годзе

*Земляныя працы на Гандлёвай (Тэатральнай) плошчы. Фота з архіву Сяргея Чыгрына, vk.com*

У ліпені 1936 года ў польскамоўнай газеце “Навагрудскі кур’ер” былі некалькі зацемак пра археалагічныя знаходкі ў Слоніме, якія адбыліся падчас пракладкі вадаправода. Іх аўтарам быў асноўны карэспандэнт выдання Віктар Клімкевіч. Ён працаваў чыноўнікам старасты ў Слоніме, быў актыўным краязнаўцам. Клімкевіч апісаў некаторыя знаходкі, а сярод іх — старыя гарадскія ходнікі (тратуар).

Першая зацемка з’явілася 10 ліпеня. Клімкевіч пісаў:

*“На галоўнай вуліцы Слоніма выкапана чэрапы чалавечыя, касцякі і падмуркі старых будынкаў. У часе працаў пры пракладцы новага галоўнага вадаправода да станцыі помпаў за казармамі натрапілі на вуліцы Міцкевіча на глыбіні 1,5 метра на чарапы і косці чалавечыя, і падмуркі старых будынкаў. Знойдзеныя часткі касцяка сабрана і пахавана на могілках. Як вынікае з тых адкрыццяў, некалькі сот гадоў таму ў цэнтры Слоніма былі могілкі”*.[1]

Вуліца Міцкевіча — гэта цяперашняя Першамайская, яе ніжэйшая частка. Як пабачым з наступных публікацый, у першай зацемцы былі недакладнасці. “Падмуркі старых будынкаў” былі знойдзены ў іншым месцы. З публікацыі ад 12 ліпеня 1936-га даведваемся пра маштаб земляных працаў у горадзе.

*Працяг на ст. 2*

# Археалагічныя знаходкі ў цэнтры Слоніма ў 1936 годзе

*Працяг, пачатак на ст.1.*

У той час выкапалі траншэю пад новыя вадаправодныя трубы на некалькі соцень метраў — ад вуліцы князя Юзафа Панятоўскага (цяпер — Пушкіна) праз плошчу Свабоды (цяпер гэта бязыменнае скрыжаванне вуліц перад саборам), вуліцу Міцкевіча да Бернардынскай вуліцы (цяпер — Васі Крайняга) "у кірунку казармаў".[2]

13 ліпеня Віктар Клімкевіч змясціў у газеце ўжо больш дакладную інфармацыю. Зацемка мела назву "Сляды старых будынкаў у Слоніме":

*"Падчас правядзення працаў вадаправодных у Слоніме на адной з вуліц, ідучых у кірунку Гандлёвай плошчы, на глыбіні 1,8 метра патрапілі на ходнікі драўляныя, пакладзеныя з круглякоў, паходжанне якіх вельмі старое. Далей у раёне плошчы Свабоды і вуліцы Міцкевіча на дастаткова значнай глыбіні знойдзены косткі людзкія і конскія, і шпоры, прычым характар размяшчэння гэтых касцей сведчыць пра вайсковыя магілы. Адна з магіл была прыкрыта каменнем. Таксама на самой Гандлёвай плошчы натрапілі на старыя падмуркі, якія мусяць быць астаткамі аднаго з былых слонімскіх кляштароў".*[3]

Як бачым, спачатку былі знойдзены магілы, пасля рабочыя натрапілі на драўляныя ходнікі (дакладна месца знаходкі не акрэслена, але гэта ці Міцкевіча, ці Бернардынская) і ўжо на плошчы выявілі падмуркі колішняга дамініканскага кляштара (ці касцёла). Апошняя публікацыя, якая з'явілася 16 ліпеня, найбольш грунтоўная.



**Ślady starych budowli w Słonimie**

SŁONIM. W czasie prowadzenia robót wodociągowych w Słonimie na jednej z ulic idącej w kierunku Placu Handlowego, na głębokości 1,80 mtr. natrafiono na chodnik drewniany ułożony z okrąglaków, którego pochodzenie jest b. stare. Następnie w rejonie Placu Wolności i ul. Mickiewicza na dość znacznej głębokości znaleziono kości ludzkie i końskie, oraz ostrogi, przyczem charakter ugrupowania tych kości wskazuje na mogiły wojenne. — Jedna z mogił była przykryta kamieniem. Ponadto na samym Placu Handlowym natrafiono na stare fundamenty, które mają być szczątkami jednego z d. klasztorów słonimskich.

Віктар Клімкевіч паспрабаваў абагульніць сабраныя звесткі.

*"Сляды дагістарычнага Слоніма*

*Падчас правядзення працаў па пракладцы вадаправода ў Слоніме ў нас ёсць магчымасць назіраць надзвычай цікавыя з'явы ў траншэях, выкапаных на двухметровую глыбіню. З разрэзу раскапанай зямлі відаць схіл насыпанага гістарычнага "смецця" ў накірунку Гандлёвай плошчы, дзе знаходзіцца самы тоўсты пласт. На глыбіні каля 1,8 метра ад сённяшняга ўзроўню зямлі на Гандлёвай плошчы бачны драўляныя ходнікі, пакладзеныя з круглякоў, амаль непасрэдна на мацярыку. Гэта сведчыць [пра тое], што раскапаны найстарэйшыя ходнікі. На падставе таўшчыні пласту можна зрабіць выснову, што гэтыя ходнікі належаць да вельмі ранніх, а можа і дагістарычных. Вывучаючы далей разрэз траншэі, заўважаем таксама пласт іншых ходнікаў, пакладзеных прыблізна на паўметра вышэй. А яшчэ бліжэй да цяперашняга ўзроўню зямлі — сляды засыпанага бруку.*

*У тых пластах зямлі ў раёне плошчы Свабоды і вуліцы Міцкевіча знайшлі вельмі старыя чалавечыя косці. Прычым характар размяшчэння касцей сведчыць, што гэта вайсковыя магілы. Пацвярджае гэта факт знаходкі там таксама касцей конскіх і шпораў. Адна з такіх магіл была прыкрытая каменнем.*

*Таксама на Гандлёвай плошчы натрапілі на падмуркі, праўдападобна, аднаго з слонімскіх кляштароў.*

*Працы вадаправодныя, распачатыя на вуліцы Князя Панятоўскага, былі скіраваны далей праз плошчу Свабоды, вуліцу Міцкевіча і Гандлёвую плошчу. Адтуль працы будуць скіраваныя па вуліцы 3 Мая* (цяпер гэта Чырвонаармейская вуліца — "СК") *да казармаў.*

*Таксама падчас капання траншэй можна натрапіць на надзвычай цікавыя [археалагічныя] помнікі і сляды мінуўшчыны. Пажадана было б, каб пра кожнае такое адкрыццё спецыялісты паведамлялі ў інстытуцыі і асобам, якія займаюцца даследаваннем мінуўшчыны і гісторыі нашага горада, як Польскае краязнаўчае таварыства і іншыя".*[4]

Памятаючы згадку ў папярэдняй зацемцы, што ходнікі знайшлі "на адной з вуліц, ідучых у кірунку Гандлёвай плошчы", і маючы на ўвазе наступную публікацыю, можна зрабіць выснову наконт месца знаходкі. Гэта ўчастак у пачатку Бернардынскай вуліцы, ад цяперашняй бібліятэкі ў бок плошчы. Аўтар не меў археалагічнай адукацыі, таму не мог зрабіць навуковага, дакладнага апісання. Але і тое, што апублікаваў Клімкевіч, мае вялікую каштоўнасць.




*Цэнтр Слоніма, дзе пракладвалі вадаправод. Фрагмент плана 1934 года*

Справа ў тым, што археолагі ў пасляваенны час не даследавалі той маршрут, па якім у 1936-м пракладваўся вадаправод. На “Карце культурнага слою г. Слоніма”, створанай у 1980-я, відаць, што найбліжэйшае бурэнне рабілася на самой плошчы, прыблізна ў тым месцы, дзе цяпер стаіць помнік Льва Сапегі. І таўшчыня культурнага слою там ацэньвалася ў 1,5 метра.[5]

І ўсё ж дзіўна, што слонімскі краязнаўца не ведаў, якія кляштар і касцёл раней былі на Гандлёвай плошчы. Яшчэ больш дзіўна, калі прыгадаць, што роўна за тры гады да апісаных падзей там праводзіў археалагічныя раскопкі гісторык і рэстаўратар Станіслаў Лорэнц, які прыехаў у наш горад. Ён тады знайшоў падмуркі былога касцёла св. Міхала і падзямеллі, якія збіраўся даследаваць разам з мясцовымі краязнаўцамі.[6]

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

*У гэтым месцы на Бернардынскай вуліцы і маглі знайсці старыя ходнікі. Фота Рамана Вішняка другой паловы 1930-х*

*[1] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 187, 10 ліпеня.*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 189, 12 ліпеня.*

*[3] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 190, 13 ліпеня.*

*[4] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 193, 16 ліпеня.*

*[5] Краўцэвіч А. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. — Мінск, 1991. С. 37.*

*[6] СЁ. Цікавыя знаходкі на Слонімшчыне ў 1933 годзе // Слонімскі край, 2017, № 3(13). Сакавік. С. 12.*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Збігнеў Якаўчык

Збігнеў Януш Якаўчык нарадзіўся ў Слоніме 9 чэрвеня 1944 года ў сям'і Уладзіслава і Рэгіны Якаўчыкаў. У пасляваенны час яны апынуліся ў Польшчы. Там Збігнеў Якаўчык атрымаў адукацыю, працаваў у Гданьскім універсітэце на кафедры замежных моваў.

У 1980 годзе слонімец стаў актывістам легендарнага прафсаюзу "Салідарнасць" у Гданьску, які патрабаваў палітычных і эканамічных рэформаў у Польшчы. У ім было да 10 мільёнаў чалавек. Прасавецкія ўлады спынілі рэвалюцыю ўвядзеннем у канцы 1981-га вайсковага становішча, калі былі інтэрнаваны тысячы апазіцыянераў, а незалежны прафсаюз забаранілі.

Якаўчык заставаўся на волі і ўключыўся ў нелегальную дзейнасць, стварыў "друкарню". У ёй выраблялiся ўлёткі, падпольныя выданні "Салідарнасці" (быў рэдактарам бюлетэня "Gryps"), арганізаваў сетку распаўсюду, ачольваў групу з 9 чалавек, пераважна супрацоўнікаў універсітэта.

13 жніўня 1982-га Збігнева Якаўчыка арыштавалі ў Сопаце, следства праходзіла ў Гданьску. Падпольшчык трымаўся мужна: віны не прызнаваў, ад дачы паказанняў адмовіўся. У дакументах польскай дзяржбяспекі згадваецца яго канспірацыйны псеўданім — "Маёр".

Летам 1983 года Якаўчыка вызвалілі па амністыі. За апазіцыянерам працягвалі сачыць яшчэ некалькі гадоў, пакуль нарэшце ў Польшчы не перамагла дэмакратыя.

У снежні 2019-га ў прэзідэнцкім палацы ў Варшаве адбылося ўзнагароджванне групы дзеячоў дэмакратычнай апазіцыі. Афіцэрскі крыж ордэну Адраджэння Польшчы атрымаў і Збігнеў Якаўчык. Былі адзначаны яго *"выдатныя заслугі ў дэмакратычных зменах у Польшчы"*, *"дасягненні ў прафесійнай і грамадскай працы на карысць краіны"*.

●Генадзь Гурскі





*Фота: ipn.gov.pl, tysol.pl*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г., № 5(39), № 7(41), 2019 г., № 5(51), № 6(52), № 7(53), № 8(54), № 9(55), 11(57), 12(58), 2020 г.*

### 1936

У гэтым годзе ў польскім футболе адбывалася рэарганізацыя. Але гэтыя працэсы не закраналі Слонім. Удзел слонімскага Makabi ў Баранавіцкай групе "клясы B" Віленскай акругі разам з камандамі з Ліды і Навагрудка[1] пакуль не знайшоў пацверджання.

### Рэванш армейцаў

Балючая параза напрыканцы мінулага сезону ад каманды Strzelec усю зіму не давала спакою WKS Słonim. Вайскоўцы нечакана страцілі статус першай каманды ў Слоніме. Яны рыхтаваліся, а "стральцы", відаць, панеслі істотныя страты ў сваім складзе. Інакш цяжка патлумачыць тое, што адбылося ў пачатку траўня 1936-га падчас адкрыцця футбольнага сезону ў нашым горадзе.

WKS і Strzelec гулялі на гарадскім стадыёне ў прысутнасці толькі 500 заўзятараў. На працягу ўсяго матчу армейцы мелі значную перавагу (па-за нешматлікімі ўспышкамі актыўнасці саперніка). Гэта быў той самы WKS, які доўгія гады дамінаваў у Слоніме. Вынік — 8:0 (4:0)! Судзіў паядынак паручнік Вайтовіч.[2]

### Разгром футбалістаў з Баранавічаў

У траўні WKS Słonim запрасіў Ognisko Baranowicze[3], каманду, якая выступала ў



Баранавіцкай групе "клясы A" Віленскай акругі. Матч атрымаўся цікавы, ён сабраў на гарадскім стадыёне каля 1000 чалавек. Каманда гасцей пакінула добрае ўражанне, але стрымаць атак армейцаў яна не змагла. Праўда, у першым тайме забітых галоў не было — у баранавіцкіх футбалістаў яшчэ былі сілы супраціўляцца. Пасля перапынку WKS ужо было не стрымаць — за 12 хвілін былі забітыя 4 галы. Суддзя паручнік Баляслаў Вайтовіч зафіксаваў перамогу слонімцаў з лікам 6:1.[4]

Вось так, ужо на пачатку сезону, вайскоўцы вярнулі сабе страчаныя пазіцыі. Прэса іх зноў пачала называць *"чэмпіёнамі Слоніма"*.[5]

### "Пародыя брамніка" і "начныя туфлі"

У сярэдзіне чэрвеня 1936 года з WKS Słonim асмелілася згуляць яўрэйская каманда Nordyja (Nordja). У справаздачы польскі журналіст даволі здзекліва піша пра апошнюю каманду. Напрыклад, пра тое, што яе брамнік з'явіўся на матч на гарадскі стадыён у… *"начных туфлях"* і што ён — *"пародыя брамніка"*. А гульню яўрэйскай каманды назваў "гумарыстычнай", з якой смяяліся заўзятары.

Нягледзячы на гэта, Nordyja адкрыла лік на 3-й хвіліне паядынку. Гэта быў яе адзіны поспех. У далейшым на полі панаваў WKS. Гулец армейцаў Прэдка раз за разам падаваў мяч у штрафную саперніка, а яго таварышы дакладна білі. Да перапынку — 8:1. Nordyja замяніла брамніка і новы гулец ратаваў каманду ў некалькіх момантах. Але WKS не спыняў атакі. Апошні гол быў забіты за секунды да фінальнага свістка. Вынік — 15:1. *"Такога матчу*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 5*

*яшчэ не было ў Слоніме”*, — пісаў “Навагрудскі кур’ер”.[6]

### Фэйк пра прыезд у Слонім каманды з Вільні

У суботу, 27 траўня, армейцы павінны былі прымаць на гарадскім стадыёне Makkabi з Навагрудка. А на панядзелак, 29 траўня, быў запланаваны паядынак з беластоцкай камандай Ognisko. У нядзелю, 28-га, мусілі гуляць Strzelec і Nordyja. 5 ліпеня “стральцы” збіраліся правесці матч у Навагрудку.[7] Ці адбыліся гэтыя паядынкі і калі так, то якія былі вынікі, пакуль невядома.

На фоне поспехаў WKS Słonim з’явіўся фэйк пра прыезд у Слонім на матч з армейцамі найлепшай каманды Заходняй Беларусі — WKS Śmigły Wilno (Wojskowy Klub Sportowy Śmigły Wilno). Яна была створана ў 1933-м шляхам аб’яднання некалькіх віленскіх клубаў. Назвалі каманду ў гонар галоўнакамандуючага польскага войска Эдварда Рыдз-Смíглы. WKS Śmigły Wilno ўдзельнічаў у рэгіянальных і пераходных турнірах за выхад у эліту польскага футбола. У 1937-м віленскай камандзе гэта ўдасца, першай з беларускіх земляў. Але ў сезоне 1938 года будзе апошняе месца…

І вось у ліпені “Навагрудскі кур’ер” паведаміў, што ў “спартыўных колах Слоніма” пашырылася вестка пра матч з грозным сапернікам. Можна ўявіць, колькі б тысяч заўзятараў сабралося б на гульню. На жаль, WKS Śmigły Wilno і не думаў ехаць у Слонім. Кіраўніцтва WKS Słonim пра гэта заявіла

— Czy W. K. S. „Śmigły" przyjedzie do Słonima. W kołach sportowych Słonima wzbudziła zainteresowanie wiadomość o mającym nastąpić meczu piłk nożnej między drużynami „Śmigły" Wilno — „W. K. S." Słonim. Wiadomość ta nie została potwierdzona przez kierownictwo „W. K. S." Słonim.




праз прэсу.[8]

### Пад WKS трапіла зборная Ваўкавыска

У канцы ліпеня 1936 года ў Слонім на матч з WKS прыехала футбольная зборная Ваўкавыска. Футбалістам і заўзятарам не пашанцавала, бо было кепскае надвор’е — з неба ліло *“як з вядра”*. Поле моцна размокла і госці ніяк не маглі да яго прыстасавацца, падалі ў бруд... А вось вайскоўцы хутка адаптаваліся да экстрэмальных умоў гульні і забівалі гол за голам. Госці таксама атакавалі, толькі забіць не маглі, у некалькіх выпадках траплялі ў каркас брамы. Суддзя Яраш зафіксаваў разгромную перамогу армейцаў з лікам 9:0. Яе сведкамі былі нешматлікія “ахвярныя” заўзятары, якія змоклі пад дажджом.[9]

### Strzelec так і не аднавіўся

Найлепшая каманда нашага горада 1935 года Strzelec так і не аднавілася. Пасля разгрому ад армейцаў і анонса яе матчу ў Навагрудку ніякай больш актыўнасці не было. Кіраўніцтва слонімскага аддзела “стралецкай” арганізацыі на сваім сходзе ў канцы ліпеня пастанавіла *“ажывіць узноўленую дзейнасць футбольнай каманды Strzelec і апрануць яе ў новую форму”*.[10] Магчыма, форму і набылі, а вось з “ажыўленнем” дзейнасці не атрымалася. На тым жа сходзе абмяркоўваліся *“дысцыплінарныя справы асобных стральцоў”.*

У кастрычніку было аб’яўлена пра планы пабудовы на гарадскім стадыёне “Стралецкага дома”, дзе мусіў быць офіс арганізацыі і іншыя памяшканні.[11]

### Быдла на футбольным полі і скрадзены замок

У той жа газетнай зацемцы паведамлялася, што на стадыёне няма парадку, моладзь працягвае хуліганіць. Напрыклад, быў скрадзены замок з брамы… [12] У іншай публікацыі паведамлялася, што на стадыёне нарэшце пачынаюць наводзіць парадак. Высвятляецца, што жыхары суседніх дамоў там… пасвілі быдла. Да іх пачалі ўжываць “санкцыі”. Праблема кашэння травы на футбольным полі, актуальная ў 1935-м, перыядычна ўзнікала і ў сезоне 1936 года. Зноў былі размовы пра неабходнасць узгаднення часу трэніровак розных клубаў, пра што нібыта ўжо дамаўляліся ў мінулым сезоне. Відавочна, што не было парадку ў “спартовай гаспадарцы”. Затое ўдалося зрабіць новую ўязную браму на стадыёне, якая мела “эстэтычны

выгляд" (гэта з яе пасля знік замок).[13]

## Рэдкая нічыя

Футбольныя матчы ў Слоніме рэдка сканчаліся ўнічыю. З WKS усё зразумела — ён усіх граміў на сваім шляху. У пачатку жніўня адбыўся паядынак *"дзвюх слабых камандаў"* — гулялі Makabi і Jutrznia. Для слонімскіх заўзятараў ужо стала звыклай справай, што слава "макабістаў" засталася ў далёкім мінулым. Тым не менш, на стадыёне было паўтысячы заўзятараў. *"Гульня, акрамя тэхнічнага браку, была аднак цікавая",* — заўважыў журналіст. Jutrznia адкрыла лік на 2-й хвіліне. Makabi яго неўзабаве зраўнівае. Пасля першага тайма — 1:1. У другім тайме Jutrznia выходзіць наперад. Але пад канец гульні сілы сталі пакідаць яе футбалістаў, чым і скарыстаўся сапернік — 2:2. Судзіў матч пан Любоўскі.[14]

## Сенсацыя сезону ці "сімпатычныя альбярцінцы"

У сярэдзіне жніўня ў Слоніме гулялі Nordyja і "маладая каманда" з Альбярціна Albertynianka. Відаць, яна арганізавалася ў тым сезоне. У справаздачы напісана, што гэта быў ужо другі матч альбярцінцаў у горадзе. З кім яны гулялі першы паядынак, невядома.

Albertynianka мела перавагу на працягу ўсяго матчу. Шмат галявых момантаў не было рэалізавана — добра гуляў брамнік яўрэйскай каманды Храпавіцкі, які *"ў шматлікіх выпадках ратаваў ад непазбежных галоў"*. Таксама былі заўважныя праблемы ў тэхніцы альбярцінцаў, некаторыя з іх *"не ўмелі біць"*. Суддзя Мінц зафіксаваў заслужаную перамогу гасцей з лікам 6:0. На стадыёне прысутнічала каля 300 заўзятараў.[15]

Як пабачым далей, з'ўленне ў Альбярціне новай футбольнай каманды стала сенсацыяй сезону. На жаль невядома, хто стаяў за ёй. У пачатку верасня 1936-га ў Альбярціне прайшло спартыўнае свята, арганізаванае "Саюзам рэзервістаў".[16] Няўжо Albertynianka — гэта рэінкарнацыя каманды Rezerwisty, якая ў мінулым сезоне перамагла грозную тады слонімскую каманду Strzelec? Што да назвы, то яна сугучная з назвай сталічнай дружыны Warszawianka.

У верасні Albertynianka зноў прыехала ў Слонім і абыграла каманду Jutrznia — 5:3. Цікава, што першы тайм быў прайграны — 0:2. Але пасля перапынку альбярцінцы разарвалі абарону гаспадароў поля. "Навагрудскі кур'ер" пісаў пра пераможцаў: *"Сімпатычныя альбярцінцы".* Таксама адзначалася, што гэтая каманда стала папулярнай у Слоніме.[17]

У той жа публікацыі падкрэслівалася, што Albertynianka — адзіная на тэрыторыі Слонімскага павета футбольная каманда. У той час Альбярцін не ўваходзіў у склад Слоніма, хаця прапаноў аб далучэнні ў 1930-я хапала.

На жаль, знікла моцная футбольная каманда, якая існавала ў Жыровічах і складалася з навучэнцаў мясцовай сельскагаспадарчай школы — Szkoła Rolnica Żyrowice. Яшчэ ў 1932-1933 гадах яна ўдзельнічала ў чэмпіянатах нашага горада[18], а пасля ўсе згадкі пра яе зніклі. Відаць, група футбалістаў скончыла навучанне, а замены ім не знайшлося.



## WKS зноў правальвае заканчэнне сезону

У пачатку кастрычніка Albertynianka разграміла на гарадскім стадыёне ў Слоніме з рэкордным лікам 17:0 каманду Nordyja. Яўрэйская каманда мела праблемы са складам каманды, але ўсё роўна гуляла. На гэты раз, калі верыць газетнай публікацыі, на поле выйшлі толькі 9 футбалістаў, а сярод іх "некалькі дзяцей". Падчас гульні два гульцы… сышлі з поля. У выніку ў канцы матчу Nordyja мела толькі 7 футбалістаў.[19] Сапраўды, дзіўная была каманда. Хацела гуляць, але не мела для гэтага магчымасцяў, і ўсё ж гуляла і прайгравала…

Праз тыдзень у Слоніме было заканчэнне футбольнага сезону.

# Слонімскі футбол у міжваенны час

*Працяг, пачатак на ст. 5-7*

Сустракаліся WKS Słonim і Albertynianka. Армейцы былі ў аслабленым складзе і не змаглі стрымаць атак гасцей, якія *"гралі выдатна і амбіцыйна"*. Першы тайм футбалісты дружыны Albertynianka выйгралі з лікам 2:0. Вядома, што першы гол пасля падачы з правага флангу Якімовіча забіў Баер (Бояр?). Пасля перапынку WKS, пры падтрымцы шматлікіх заўзятараў-вайскоўцаў, адыграў адзін гол. Аднак госці забіваюць трэці. І калі армейцы зноў скарацілі разрыў у ліку да мінімуму, у іх браму заляцеў чацвёрты — 2:4.

1000 заўзятараў і суддзя Яраш сталі сведкамі таго, як армейцы ці не ўпершыню за гісторыю сваёй каманды не дагулялі матч. У другім тайме здарыўся нейкі *"дробны інцыдэнт"* паміж двума гульцамі камандаў (у газетнай справаздачы не ўдакладняецца, што менавіта). WKS пасля гэтага дружна сышоў з поля, чым расчараваў сваіх заўзятараў. Вось так быў зноў зрынуты з п'едэстала (летась гэта зрабіў Strzelec) "чэмпіён Слоніма". Як гэта не дзіўна, але нямала заўзятараў радаваліся перамозе альбярцінцаў, адзначалі іх *"прыгожую і цікавую гульню"*. [20]

●Сяргей Ёрш

Працяг у наступным нумары

*[1] Okręgowe rozgrywki w piłce nożnej woj. Wileńskiego (1936) // https://pl.wikipedia.org/wiki/Okr%C4%99gowe_rozgrywki_w_pi%C5%82ce_no%C5%BCnej_woj._wile%C5%84skiego_(1936)*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 124, 6 траўня.*

*[3] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 141, 23 траўня.*

*[4] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 146, 28 траўня.*

*[5] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 171, 23 чэрвеня.*

*[6] Тамсама.*

*[7] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 174, 26 чэрвеня.*

*[8] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 205, 28 ліпеня.*

*[9] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 209, 1 жніўня.*

*[10] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 204, 27 ліпеня.*

*[11] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 290, 22 кастрычніка.*

*[12] Тамсама.*

*[13] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 241, 2 верасня.*

*[14] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 220, 12 жніўня.*

*[15] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 227, 19 жніўня.*

*[16] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 249, 11 верасня.*

*[17] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 263, 25 верасня.*

*[18] Ёрш С. Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады) // Слонімскі край, 2020, № 8(54). Ліпень. С. 16; 2020, № 9(55). Жнівень. С. 15.*

*[19] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 275, 7 кастрычніка.*

*[20] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 282, 14 кастрычніка.*

# Польскі хімік уцёк са Слоніма за мяжу ў 1940 годзе

У верасні 1939 года ў Слонім прыехаў польскі навуковец-хімік Караль Веслаў Адвентоўскі (1883 — 1957). Падчас вайны ён, відаць, з сям'ёй, эвакуяваўся з Познані на ўсход. Спадзяваўся, што тут будзе спакойна і бяспечна, аднак неўзабаве прыйшлі бальшавікі. Магчыма, на Слонімшчыне былі сваякі жонкі Алены (дзявочае прозвішча Адамовіч).

Некалькі месяцаў Адвентоўскі знаходзіўся пад савецкай уладай у Слоніме, выкладаў у мясцовай гімназіі, якая стала школай (відаць, ён добра ведаў рускую мову). У чэрвені 1940-га навуковец рашыўся на нелегальны пераход савецка-нямецкай мяжы і змог дабрацца да Варшавы.* Напэўна, з сям'ёй, інакш яна была б арыштавана.

У пасляваеннай Польшчы хімік працягваў займацца выкладчыцкай дзейнасцю, даследаваннямі, з'яўляецца аўтарам навуковых працаў. Памёр і пахаваны ў Кракаве. У Вольштыне, дзе ў міжваенны час ён быў дырэктарам настаўніцкай семінарыі, яго імем назвалі вуліцу.

●Генадзь Гурскі



*Караль Адвентоўскі*

**Wojtaszek Z. Karol Adwentowski // Kwartalnik historii nauki i techniki (Warszawa), 1958, t. 3, № 3. S. 448; Karol Adwentowski // Szwedo B. Tarnobrzeski słownik biograficzny: Wpisani w historię miasta: Tom II. — Tarnobrzeg, 2015. S. 13.*

# Калекцыя карцін і гравюр доктара Францa Пучкоўскага згарэла падчас пажару

У мінулым нумары “СК” пісаў пра слонімскага павятовага лекара ў першыя дзесяцігоддзі XIX стагоддзя Франца Сямёнавіча Пучкоўскага (1775 — 1838).[1] Ужо пасля публікацыі пра яго неспадзявана знайшліся новыя звесткі. Пучкоўскі згадваецца ва ўспамінах пра Слуцк, выдадзеных у 1905 годзе.[2] Яны напісаны ў 1886-м на польскай мове баронам Сталь (Шталь) фон Гальштэйн Карлам-Аляксандрам-Адальбертам (Карлам Фёдаравічам, 1816 — 1890), немцам па паходжанні (продкі — баварскія дваране), ураджэнцам Слуцка. *“Імя было нямецкае: душа стала ліцьвінскай”*, — піша выдавец, святар і гісторык Аляксандр Мацей Марыянскі.[3]

Карл Сталь успамінае пра сваё падарожжа з маці на Слонімшчыну летам 1827 года. Ён якраз скончыў трэці клас гімназіі. Да гэтага ён падарожнічаў з маці на Мазыршчыну, і яму спадабалася.

У канцы чэрвеня Сталі рушылі ў шлях. *“Ехалі мы сваімі коньмі… спачатку ў Слонім і Жыровічы”*, — чытаем ва ўспамінах. Іх маршрут са Слуцка пралягаў праз Нясвіж, Сноў, Сталавічы і Палонку, дзе 10-гадоваму хлопчыку запомнілася драўляная капліца св. Антонія і пустэльнік, які жыў у лесе.

*“Далей ідуць пясчаныя ўзгоркі, у даліне, у лесе плыве рэчка Іса,* — успамінае Карл Сталь. — *Маці паказала мне месцы, дзе былі пахаваны памежныя камяні маёнтка яе дзеда.*

*Нарэшце, калі праехалі мы лес, то адкрылася раўніна, па якой плыве рака Шчара,*


WSPOMNIENIA
O SŁUCKU
B. J. K.
W GNIEŹNIE
NAKŁADEM KSIĘGARNI JANA WIŚNIEWSKIEGO
1905.

Вокладка ананімных успамінаў барона Карла Сталь, выдадзеных ужо пасля яго смерці



Граф Мікалай Навасільцаў

*глыбокая, суднаходная, а над ёй горад Слонім, колішняя сталіца князёў Агінскіх. Пасля былога іх палаца застаўся толькі адзін невялікі будынак, Бурса, у якой калісьці размяшчаўся аркестр г. зн капэла. У новым палацы жыў і раптоўна памёр злавеснай памяці граф Навасільцаў. Кажуць, што калі выкрыліся яго вялікія злоўжыванні і прыдворны страціў ласку, атруціўся ад адчаю”*.[5]

Сенатар, граф Мікалай Навасільцаў памёр у 1838 годзе, пахаваны ў Санкт-Пецярбургу. Ці быў у 1827-м “новы палац”, вялікае пытанне. Здаецца, Навасільцаў проста адрамантаваў стары мураваны будынак Агінскага. Яго можна ўбачыць на плане горада 1828 года, а побач — драўляны будынак. А ад опернага тэатру ўжо няма і следу. Але вернемся да ўспамінаў.

*“Горад Слонім быў добра забудаваны, у ім было шмат мураваных касцёлаў і кляштараў, пры гэтым быў значны гандаль збожжам і дрэвам,* — працягвае Карл Сталь. — *Пазней пажары знішчылі шмат вуліц і касцёлаў. У адным з тых пажараў згарэў таксама прыгожы дом павятовага доктара п*[ана] *Пучкоўскага, які карыстаўся вялікай папулярнасцю ў Слоніме. Я ведаў самога лекара і яго дзяцей, і бачыў у гэтым самым доме, на сценах шмат прыгожых карцін і дарагіх гравюр, развешаных на сценах. Пажар быў настолькі моцны, што нічога не ўдалося выратаваць”*.[6]

Магчыма, што аўтар успамінаў разам з маці патрапіў да слонімскага доктара яшчэ падчас той паездкі. Магчыма, крыху пазней. І пакуль дарослыя размаўлялі, случчак пазнаёміўся з дзецьмі доктара, аглядаў іх дом. Наўрад ці Карл Сталь сустракаўся з Францам Пучкоўскім ужо ў дарослым жыцці. З 1837-га ён служыў

# Калекцыя карцін і гравюр доктара Франца Пучкоўскага згарэла падчас пажару

*Працяг, пачатак на ст. 9*

на Каўказе (у выніку скончыў службу генерал-маёрам), а доктар Пучкоўскі памёр у 1838 годзе.

Калі ж адбыўся той пажар у Слоніме, падчас якога згарэў *"прыгожы дом павятовага доктара"*? Праўдападобна, гэта адбылося ў 1848 годзе. У ноч з 10 на 11 ліпеня раптоўна загарэўся цэнтр горада, ахвярамі агню сталі 164 дамы.[7]

Дзесьці ў цэнтры горада стаяў і дом Франца Пучкоўскага. Але доктар ужо не пабачыў, як гарэла яго каштоўная калекцыя карцін і гравюр. Якія скарбы там былі і ці былі? Магчыма, гэта яшчэ ўдасца высветліць.

У згаданых успамінах барон Сталь таксама апісвае паездку з маці са Слоніма ў Жыровічы, але пра гэта іншым разам.

●Сяргей Ёрш

*[1] Ёрш С. Доктар медыцыны Франц Пучкоўскі // Слонімскі край, 2020, № 12(58). Лістапад. С. 14.*

*[2] Wspomnienie o Słucku. — Gnieźna, 1905.*

*[3] Тамсама. С. 5.*

*[4] Тамсама. С. 86.*

*[5] Тамсама. С. 89.*

*[6] Тамсама. С. 90.*

*[7] Ёрш С. Пра пажар у Слоніме ў ліпені 1848 года // Слонімскі край, 2020, № 4(50). Сакавік. С. 8-9.*




*Герб баронаў Сталь фон Гальштэйн, якія паходзілі з Баварыі*

Былыя дамы і пабудовы Міхала Казіміра Агінскага на плане Слоніма 1828 года

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак у № 6-12, 2020 г.*

VI. СЯМЕЙНЫЯ ГІСТОРЫІ МІКУЛЬСКІХ

Александрына Марэнгейм і Аляксандр Мікульскі

Александрына Марэнгейм была дачкой рускага гвардзейца барона Эдварда Марэнгейма і графіні Ганны Стэцкай. Аляксандр Мікульскі — сын прэзідэнта Слонімскага суда Фларэнціна (Філарэнцiя) Мікульскага і графіні Ганны Моль. Александрына была незвычайна прыгожая, а Аляксандр меў *"нефартунны выгляд"*, пісаў яго пляменнік Іосіф Гадлеўскі ў сваёй кнізе "На пераломе эпох" (Na przełomie epok. Londyn, 1978): *"Малы ростам, як карлік, брыдкі з каржакаватым носам"*. Арыстакратычнае грамадства было агаломшана весткай пра вяселле Аляксандрыны Марэнгейм. Тым, што прыгажуня-баранэса да алтара ішла не з Канстанцінам Скірмунтам, а з Аляксандрам Мікульскім (Скірмунт быў на тры гады маладзейшы за яе, а Мікульскі на дзесяць гадоў старэйшы). Як піша Гадлеўскі, Аляксандра Марэнгейм узяла шлюб з Мікульскім на зло Канстанціну Скірмунту.

Марэнгеймы — баронскі род, які паходзіць з Аўстрыі. Баронскі тытул і герб быў падараваны прадзеду Александрыны Іосіфу Марэнгейму (1759 — 1797) імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Леапольдам II. Ён быў доктарам медыцыны, вядомым хірургам, акушэрам. У Расію Марэнгейма запрасіла імператрыца Кацярына II, і ён адчыніў першую ў імперыі



*Барон Іосіф Марэнгейм*



*Магіла Тэафіліі Мікульскай у Пінску*

радзільню.

Прадзедам Канстанціна Скірмунта па лініі бацькі быў вядомы прадпрымальнік і прамысловец, першы афіцыйна прызнаны беларускі вынаходнік Аляксандр Скірмунт, які заснаваў першую цукровую фабрыку ў Беларусі. Канстанцін Скірмунт даводзіўся стрыечным братам Раману Скірмунту, будучаму прэм'ер-міністру БНР і сенатару Польшчы.

Ён нарадзіўся ў багатай і ўплывовай шляхецкай сям'і Генрыка Скірмунта і Марыі Твардоўскай, унучкі апошняга рэктара Віленскага ўніверсітэта Іосіфа Твардоўскага. Прабабка Канстанціна Скірмунта па лініі маці паходзіла з сям'і Мікульскіх са Старых Жыровічаў. Захавалася метрыка аб шлюбе 1811 года Тэафіліі Мікульскай (1784 — 1878) са Старых Жыровічаў з Іосіфам Твардоўскім (1786 — 1840). Кім Тэафілія Мікульская даводзілася Фларэнціну Мікульскаму, на жаль невядома. Розніца ва ўзросце складае 16 гадоў. Магчыма, яна была сястрой яго бацькі Андрэя Мікульскага.

Такім чынам, можна меркаваць, што сем'і Скірмунтаў і Мікульскіх былі добра знаёмыя. Таксама роднасныя сувязі былі ў гэтых сем'яў праз Стравінскіх, з роду якога паходзіла бабуля Аляксандра Мікульскага Маргарыта Стравінская. А вось ранейшых роднасных сувязяў Марэнгеймаў і Мікульскіх прасачыць не ўдалося.

У 1883-1887 гадах Канстанцін Скірмунт вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце на юрыдычным факультэце. Пасля атрымання ступені кандыдата права, ён у 1887-1889 гадах служыў у IV дэпартаменце Дзяржсавета Расійскай імперыі. У сваёй кнізе "Moje wspomnienia 1866-1945" Канстанцін Скірмунт піша, што *"гэта быў найлепшы старт для далейшай дыпламатычнай кар'еры"*. Але распачаць кар'еру дыпламата адразу не атрымалася — вясной 1889 года бацька выклікаў дахаты на Палессе *"прыняць вядзенне*

*Працяг на ст. 12*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак на ст. 11*

*гаспадаркі”.* Магчыма, што прычына ад‘езду з Пецярбургу была і ў тым, што разладзіўся шлюб з яго нявестай баранэсай Аляксандрай Марэнгейм. У гэты час пры імператарскім двары вялікую ролю іграў яе родны дзядька Артур Паўлавіч Марэнгейм (1824 — 1907), сапраўдны таемны дарадца і расійскі дыпламат.

З 1882 года барон Марэнгейм быў паслом у Парыжы, дзе заставаўся да 1898 года. Калі Александрына і яе сястра Марыя (1861 — 1920) гасцілі ў французскай сталіцы ў дзядзькі, той ужо падумваў аб выгадным шлюбе для пляменніц. Марыю Марэнгейм ён пазнаёміў з Казімірам Гадлеўскім, які вучыўся у Парыжскай кансерваторыі. Александрына Марэнгейм пазней стала нарачонай нявестай Канстанціна Скірмунта.

Александрына задавала сабе пытанне: на што быў гатовы дзеля яе кахання Канстанцін Скірмунт? Насамрэч ёй трэба было ўсяго толькі, каб ён яе кахаў… а ён быў *“зусім не чулы на павагі сваёй нявесты”*. Яна з дзяцінства марыла пра вялікае каханне, такое, якое было


*Артур Марэнгейм*

некалі ў яе бацькоў… Яе маці Ганна Стэцкая пазнаёмілася ў Кракаве на бале ў Патоцкіх з маладым расійскім баронам Эдвардам Марэнгеймам. Прыстойны і элегантны Марэнгейм спадабаўся маладой і прыгожай Ганне. Але яна была дачкой графа Людвіка Стэцкага, паўстанца, які за свой уласны кошт выставіў полк кавалерыі і выступіў у 1830-1831 гадах супраць Расіі. Даведаўшыся, што бацькі не дазволяць Ганне шлюб з расійскім царскім гвардзейцам, Эдвард Марэнгейм назаўжды пакінуў вайсковую службу ў Пецярбургу, прыняў каталіцтва, купіў фальварак па суседстве з Стэцкімі і прыйшоў да бацькоў прасіць рукі Ганны. Такі ўчынак уразіў бацькоў, і яны далі згоду на шлюб. У далейшым Эдвард Марэнгейм, дзякуючы сваім сувязям пры царскім двары, змог вярнуць канфіскаваны царскімі ўладамі маёнтак Стэцкіх у сям’ю.

Дакладна невядома, чаму на зло Канстанціну Скірмунту Аляксандра Марэнгейм у 1888 годзе выходзіць замуж за Аляксандра Мікульскага. Вядома, што ў 1879-м ён атрымаў атэстат юрфака Дэрпцкага універсітэта. Маёнтак Літва перайшоў да яго ад бацькі Фларэнцiна ў нядбайным выглядзе, але *“энергічны Аляксандр Мікульскі меў выдатныя арганізатарскія здольнасці і хутка распачаў грандыёзнае будаўніцтва ў маёнтку”*.

Аб вялікім каханні Аляксандра Мікульскага яшчэ да нядаўніх пор нагадвала алея, якую мясцовыя жыхары так і называюць па сённяшні дзень *“алея пані Мікульскай”*. З усіх бакоў да двухпавярховага саракапакаёвага палаца, які стаяў сярод вялікага маляўнічага парку, цягнуліся газоны з ружамі і азаліямі, меўся прыгожы фантан, зашклёная кветкавая аранжарэя, у якой раслі экзатычныя расліны: магноліі, цытрусавыя і аліўкавыя дрэвы, фінікавыя пальмы.

У сям’і нарадзіліся тры дачкі: Магдалена (1889? — 1952), Марыя (1900 — 1949) і Аляксандра (1892 — 1939). Аляксандр Мікульскі стаў для жонкі і дзяцей узорным мужам і бацькам.

Канстанцін Скірмунт так


ś. p.
ALEKSANDRA z Baronów MOHRENHEIMÓW
MIKULSKA
ur. d. 2 (14) maja 1863 r. po długiej a ciężkiej chorobie, opatrzona Przenajświętszemi Sakramentami, zgasła w Panu dnia 7 (20) listopada w Pau.
Nabożeństwo żałobne za spokój Jej duszy, na które stroskani mąż, córki i syn zapraszają krewnych, znajomych i przyjaciół, odbędzie się w górnym kościele św. Aleksandra w dniu 4-ym grudnia (we wtorek), o godzinie 11-ej przed południem. 8361

*Некралог баранэсы Александрыны Марэнгейм (Мікульскай)*



*Марыя, Магдалена і Аляксандра Мікульскія, унучкі Фларэнціна Мікульскага. З сямейнага архіву Яна Х'юберта Стэцкага*



*Канстанцін Скірмунт*

і не ажаніўся. Элаіза Ажэшка пісала: *"Гэтыя два браты Скірмунты — дзеці з сям'і выключна інтэлігентнай і грамадска актыўнай. Старэйшы Канстанцін Скірмунт увесь пагружаны ў грамадскія справы, шмат працуе, ахвяруючы час і сродкі, забываючы пра асабістыя інтарэсы і ўласнае шчасце".*

Позняй восенню 1900 года ва ўзросце 37 гадоў памерла Аляксандра Марэнгейм (14 траўня 1863 — 20 лістапада 1900), нарадзіўшы дачку Марыю. Яна была пахавана ў радавой капліцы ў вёсцы Літва. 70-гадовы Аляксандр Мікульскі памёр 24 лістапада 1923 года і быў пахаваны там жа. Канстанцін Скірмунт перажыў вайну і памёр ў 1949-м у 83-гадовым узросце.

●Святлана Брайчук

*Працяг у наступным нумары*

IN MEMORIAM

# Міхаіл Сачак




16 кастрычніка ў Віцебску на 92-м годзе жыцця памёр наш зямляк Міхаіл Рыгоравіч Сачак, доктар медыцынскіх навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, ганаровы грамадзянін абласнога цэнтра.

Міхаіл Сачак нарадзіўся 10 студзеня 1929-га ў вёсцы Варонічы на Слонімшчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў Віцебскі дзяржаўны медінстытут. Быў галоўным лекарам Лепельскага раёна. З сярэдзіны 1960-х — у Віцебску. Абараніў кандыдацкую дысертацыю, а пасля і доктарскую, быў галоўным хірургам Віцебскай вобласці. У 1979-1996 гадах — рэктар Віцебскага медінстытута. Аўтар больш за 450 навуковых працаў, 14 манаграфій і дапаможнікаў, 9 вынаходніцтваў.

*"За ўсімі званнямі, тытуламі, поспехамі і ўзнагародамі стаяў Чалавек — чалавек з вялікай літары, вялікай душы, прыстойнасці і сціпласці, спагадлівасці і дабрыні, строгасці і прынцыповасці, сумленнасці"*, — адзначае прэс-служба Міністэрства аховы здароўя.

# Артыст Іван Андрыеўскі з Альбярціна

Чытач "СК" Яўген Барышнікаў даслаў скан публікацыі амаль 60-гадовай даўніны. Пліская раённая газета (цяпер гэта Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці) "Сцяг перамогі" 4 лютага 1961 года змясціла фота і тэкст Беларускага тэлеграфнага агенцтва. Гэта быў матэрыял "Артыст народнага тэатра" пра Івана Касьянавіча Андрыеўскага з Альбярціна. Яго называюць брыгадзірам кардоннай фабрыкі "Альбярцін". Высвятляецца, што Андрыеўскі каля 40 гадоў удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Яшчэ ў 1927 годзе ён арганізаваў драматычны гурток пры пасялковай пажарнай дружыне. Між іншым яны ставілі "Паўлінку" Янкі Купалы. Пры савецкай уладзе Іван Андрыеўскі ўдзельнічаў у фабрычнай мастацкай самадзейнасці, спяваў у хоры. А ў 1953-м ён стаў удзельнікам драматычнага калектыву Слонімскага раённага Дома культуры.

У газетнай публікацыі згадваецца, што Андрыеўскі *"стварыў многа запамінальных вобразаў"* (на здымку ён у ролі Карпа Маеўскага ў спектаклі па рамане Івана Шамякіна "Глыбокая плынь"). *"За прыкладную працу і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці"* яго ўзнагародзілі ордэнам "Знак пашаны".

Андрыеўскі згадваецца ў кнізе "Памяць".* Там яго называюць зменным майстрам ці проста майстрам фабрыкі, прадстаўніком *"самай вялікай дынастыі — Андрыеўскіх — 19 чалавек"*. Іван Касьянавіч у 1947 годзе стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.



*Іван Андрыеўскі*

Барышнікаў знайшоў згадкі пра альбярцінскага артыста і дэпутата ў кнізе пра народныя тэатры ў Беларусі.** Івана Андрыеўскага ў ёй называюць *"ветэранам самадзейнай сцэны"*. У Слонімскім народным тэатры якраз адзначылі яго 60-годдзе з дня нараджэння і

40-годдзе сцэнічнай дзейнасці. “*Нягледзячы на пажылы ўзрост, заўсёды падцягнуты, бадзёры, адным словам — у форме… Павагу Іван Касьянавіч заслужыў у слонімцаў сваім сталым розумам, любоўю да родных мясцін, шматгадовай добрасумленнай працай і, вядома, сцэнічнымі поспехамі”,* — пісаў пра яго аўтар кнігі. *“Гэта мой надзённы кавалак хлеба для душы”,* — цытуе ён словы Андрыеўскага пра тэатр.

У кнізе пераказваюцца і цытуюцца ўспаміны Івана Андрыеўскага. Высвятляецца, што на яго пры польскай уладзе паўплываў *“настаўнік мясцовай школы — вялікі аматар драматычнага мастацтва”.* Ён збіраў маладых рабочых, яны разам *“развучвалі вершы, рыхтавалі спектаклі”* (“Паўлінку” Купалы, “Апошняе спатканне” Галубка, у якіх у Андрыеўскага былі першыя ў жыцці ролі).

Іван Касьянавіч згадаў, што пры польскай уладзе ён *“паставіў у вёсцы Чапялёва драму Купалы “Раскіданае гняздо”.* Калісьці “СК” пісаў пра драматычны гурток беларускай моладзі ў Чапялёве.*** Зацемкі пра яго дзейнасць у віленскі беларускі часопіс “Шлях моладзі” дасылаў нехта, вядомы нам пад псеўданімам “Воўк”. Безумоўна, Андрыеўскі ведаў гэтага чалавека. Ці можа ён сам іх дасылаў? Паспрабуем гэта высветліць.

●СЁ

**Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 552, 660.*

***Пятровіч С. Народныя тэатры Беларусі. — Мінск, 1966. С. 27-29.*

****СЁ. Як чапялёўская моладзь марыла пра стварэнне беларускага тэатру // Слонімскі край, 2016, № 3. Красавік. С. 13.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Вайсковы помнік у Слоніме



У Слоніме ў канцы 1930-х гадоў існаваў польскі вайсковы помнік. Ён быў урачыста адкрыты каля казармаў у нядзелю, 26 ліпеня 1936 года, у 10:45 раніцы. Мерапрыемства прымеркавалі да свята 79-га і 80-га пяхотных палкоў, якія дыслакаваліся ў нашым горадзе.[1] “Навагрудскі кур’ер” так пісаў пра месца ўсталявання “помніка героям палкоў”: *“…на тэрыторыі казармаў насупраць гарнізоннага касцёла”.*[2] Былі ўшанаваныя вайскоўцы згаданых падраздзяленняў (былых навагрудскага і беластоцкага палкоў), якія загінулі падчас вайны 1918-1920 гадоў.

Ідэя пабудовы помніка

*Працяг на ст. 16*

# Вайсковы помнік у Слоніме

Працяг, пачатак на ст. 15

належала палкоўніку Тадэвушу Трапшу, камандзіру 79-га палка і каменданту гарнізона. Спраектаваў і вырабіў яго пры дапамозе іншых вайскоўцаў сяржант 79-га палка Анджэй Білевіч. Будаўніцтва пачалося 27 траўня 1936-га, а скончылася 21 ліпеня, за пяць дзён да ўрачыстасці. Помнік героям меў каля 4 метраў у вышыню. Зверху на мануменце знаходзіўся стылізаваны арол. Па баках помніка можна было пабачыць выявы Язэпа Пілсудскага, цытаты з яго лістоў, рыцара ў лаўровым вянцы, крыж доблесці, спіс прозвішчаў загінулых.

На адкрыцці прысутнічала камандаванне палкоў, стараста Міраслаў Альшэўскі, бурмістр Генрык Бянькевіч, прадстаўнікі грамадскасці, вайсковы капелан ксёндз Севярын Ендрысік (ці Ендрысяк). Ганаровае права адкрыць помнік выканаў палкоўнік Францішак Дудзіньскі, камандзір пяхоты 20-й дывізіі, які спецыяльна прыехаў з Баранавічаў.[3] Пасля выканання аркестрам дзяржаўнага гімну Польшчы адбыўся вайсковы парад. З вуліцы 3 Мая за ўрачыстасцю назірала шмат слонімцаў.

Пасля ўсталявання восенню 1939-га савецкай улады польскі помнік быў знішчаны.

●СЁ

*[1] Wiarus, 1936, № 31, 1 жніўня. С. 756.*

*[2] Kurjer Nowogródzki,1936, № 204, 27 ліпеня.*

*[3] Kurjer Nowogródzki,1936, № 207, 30 ліпеня.*



*На ніжнім здымку бачым момант адкрыцця вайсковага помніка палкоўнікам Дудзіньскім*

УСПАМІНЫ

# На ўздыме

*1912-1919 гады ў Слонімскім раёне Заходняй Беларусі*



*Мітынг у Слоніме 14 студзеня 1919 года*

*Заканчэнне, пачатак у №9-12, 2020 г.*

Першае баявое хрышчэнне атрад атрымаў ва ўзброенай сутычцы з немцамі — у ноч адступлення апошніх нямецкіх часцей, калі яны спрабавалі зрабіць выбух двух чыгуначных мастоў на рацэ Шчары[1] і яе канале. Атрад, залёгшы паабапал мастоў, пад захаваннем лясных матэрыялаў, сабраных на беразе рэчкі, зорка сачыў за кожным нямецкім цягніком, які там праязджаў. Ведалі, што ўзрываць масты будзе апошні цягнік. Таму, атрымаўшы паведамленне, што апошні цягнік выйшаў са станцыі, атрад падышоў бліжэй да палатна чыгункі і пры падыходзе яго да першага маста, адкрыў па ім "гураганны" агонь. Немцы пачалі адстрэльвацца з двух кулямётаў, але ўсё ж такі вымушаны былі хутчэй праскачыць праз абодва масты, паспеўшы пашкодзіць толькі першы з іх.

Для правядзення гэтай аперацыі атрадам у тую ноч камандаваў т[аварыш] Волах, які прыехаў за некалькі дзён да гэтага з Савецкай Расіі. Тав. Волах у той час яшчэ быў максімалістам, у дні рэвалюцыі быў адзін час рэдактарам часопіса *"Максималист"*, цэнтральнага органа саюзу максімалістаў. У арганізацыі савецкай улады ў Слонімскім раёне ў пачатку 1919 года тав. Волах, безумоўна, адыграў вялікую ролю, і ў красавіку месяцы гэтага ж года ён перайшоў у шэрагі камуністычнай партыі. У пачатку 1920 года тав. Волах памёр у г. Гомелі ад тыфусу. На той час ён з'яўляўся ўпаўнаважаным НК[2] замежнага гандлю на Заходнім фронце.

Раніцай 14 студзеня 1919 года ў горад увайшлі першыя чырвонаармейскія часткі Гродзенскага палка, а днём у гонар прыбыцця гэтых часцей была наладжана грандыёзная дэманстрацыя. У адрозненне ад той абстаноўкі, якая была пры немцах, жыццё ў горадзе адразу забіла поўнай крыніцай. У

*Працяг на ст. 18*

# На ўздыме

*Працяг, пачатак на ст. 17*

першыя дні бывала сустракаеш на вуліцах толькі радасныя і вясёлыя твары рабочых, асабліва моладзі, буржуазія пахавалася, ці паспела ўцячы яшчэ да адыходу нямецкіх войск. Але радасны і нават узняты настрой вельмі хутка змяніўся трывогай за лёс раёна. Бо Слонімскі раён быў апошні, заняты чырвоным войскам і на мяжы якога ўжо гаспадарылі і рабавалі атрады белапалякаў. Нягледзячы на гэта, органы савецкай улады былі арганізаваны ва ўсіх пунктах раёна і безадкладна было прыступлена да арганізацыі нармальнага забеспячэння насельніцтва і Чырвонай арміі патрэбнымі прадуктамі шырокага спажывання.

Праз месяц органы ўлады настолькі ўмацаваліся, што стала магчымым склікаць другі павятовы з’янзд саветаў. На гэты з’езд прыбыло з усіх канцоў раёна больш за 150 дэлегатаў. Меншавіцкая дэлегацыя (Бунд, эсэры і інш.) была прадстаўлена на з’ездзе ў ліку не больш 20 чалавек. Але затое на гэтым з’ездзе давялося сутыкнуцца з плынню, якая моцна аддавала настроямі беларускага нацыянал-шавінізму.[3] Група дэлегатаў на чале з паасобнымі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі вырашыла дабіцца абрання прызідыуму з’езду, а таксама выканаўчага камітэта пад лозунгам “Беларусь для беларусаў” і пад падтрабаваннем увядзення ў склад выбарных органаў велізарнай большасці сялян-беларусаў, а гэта разам азначала яўнае імкненне вырвацца з-пад кіраўніцтва рабочага класу і яго партыі. Характэрна, што асобы, якія выступалі з такімі патрабаваннямі, выстаўлялі сябе,



*Народны дом у Слоніме*

як спачуваючых камуністычнай партыі, а на сходзе фракцыі бальшавікоў патрабавалі для сябе пастаноўчага голасу. Частка членаў партыі, асабліва вясковая, не зразумела адразу, у чым справа, спачатку нават пачала падтрымліваць гэтую групу нацыянал-шавіністаў. І нямала працы давялося патраціць, пакуль на фракцыі, якая складала большасць з’езду, удалося стварыць адпаведны пералом.

Новамувыканаўчамукамітэту прыпала працаваць вельмі кароткі тэрмін, не больш двух тыдняў. Не паспелі выканкам і яго аддзелы разгарнуць сваю працу, як абстаноўка, што стварылася, прымусіла ўсю ўвагу сканцэнтраваць на барацьбе з наступаючымі белапалякамі. Некалькі раз польскія атрады падыходзілі зусім блізка да горада і кожны раз іх спробы ўварвацца ў Слонім сустракалі рашучы адпор. Але ў ноч з 1 на 2 сакавіка 1919 года горад быў абкружаны палякамі. Польскі кавалерыйскі атрад заняў пасад Альбэртын, які знаходзіўся ў трох вярстах на ўсход ад горада. І характэрна, што камандаванне чырвонаармейскай часці (4-га Варшаўскага палка), якая знаходзілася ў горадзе, паведаміла аб гэтым у выканкам толькі тады, калі адзін з членаў выканкама патэлефанаваў у Альбэртын і вельмі хутка пераканаўся, што з ім гаворыць польскі легіянер. Факт здрады ці грубейшай памылкі, дапушчанай камандаваннем, быў у наяўнасці. Марудзіць нельга было. Кожную хвіліну палякі маглі ўварвацца ў горад і захапіць знянацку ўсю партыйную арганізацыю і ўвесь склад палка.

Пад кіраўніцтвам тав. Кундо, прадстаўніка цэнтральнай улады Літвы і Беларусі па Гродзенскай губерні, спешна складзены атрад камуністаў гарадской партыйнай арганізацыі пайшоў да шасейнага моста ў кірунку на Баранавічы. Гэта было адзінае месца, адкуль была яшчэ надзея на магчымасць прарвацца. Па шашы за вярсту ад лесу размясціўся ўвесь 4-ты Варшаўскі полк.

Не рухаючыся з месца на ўскраіне лесу, загараджваючы дарогу, спешыўся атрад польскіх кавалерыстаў — чакалі, напэўна, хвіліны, калі полк накіруецца наперад. Іншага выхаду не было, як ісці на прарыў, бо ў горад ужо ўварваліся першыя [польскія] кавалерыйскія часці, а з правага флангу абыходзілі пяхотныя часці, якія спрабавалі ўтварыць кола.

Камандаванне палка, апусціўшы рукі, адмаўлялася даць загад чырвонаармейскім часцям ісці наперад — на прарыў. Тады тав. Кундо выступіў наперад з камуністычным атрадам, які складаўся ўсяго з 25 чалавек.

Сарваўшыся з месца, атрад па зусім адкрытым месцы, па гладкім лёдзе замерзлай рэчкі накіраваўся ў кірунку на ўскрай лесу. Польскія кавалерысты адкрылі агонь з ручнога кулямёта, але нейкім цудам з атраду быў паранены толькі адзін чалавек (тав. Ткачоў[4] — начальнік павятовай міліцыі). З крыкам "ура" атрад уварваўся на ўскрай лесу.

Польскія кавалерысты адступілі тады ўглыб сасновага бору. Атрад камуністаў, наступаючы, пайшоў услед за адступаючымі кавалерыстамі, ачысціўшы, такім чынам, дарогу па шашы паміж лесам. Полк накіраваўся наперад, пакінуўшы ззаду сябе заслону для абароны ад наступаючых польскіх часцей.

Горад і раён занялі белапалякі. Польскія афіцэры і салдаты збівалі, рабавалі, расстрэльвалі, жорстка здзекаваліся над мірным працоўным насельніцтвам. І зноў у падполлі пачалася гарачая праца па падрыхтоўцы новых свежых сіл рабочага класу і працоўнага сялянства для будучых баёў і перамог.


І. Волах

## Некаторыя высновы

Выкладзеная ў кароткіх рысах гісторыя, ацэнка падзей, што мелі месца ў Слонімскім раёне ў перыядзе 1912-19 гг., характэрна і для большасці іншых раёнаў Заходняй Беларусі. Тое ж становішча прамысловасці і сельскай гаспадаркі напярэдадні вайны за выключэннем найбольш выдатнага ў прамысловых адносінах Беластоцкага раёна. Тыя ж этапы рабочага руху, партыйнай і класавай барацьбы, якія прайшлі, праўда, не ва ўсіх раёнах і ў аднолькавыя тэрміны, і якія мелі ў кожным раёне свае паасобныя мясцовыя асаблівасці. Той жа жахлівы малюнак разбурэння, галечы і ўціску, які адбыўся, дзякуючы бязлітаснаму зруйнаванню краю ў 1914-15 гг. адступаючай царскай арміяй, дзякуючы трохгадоваму "гаспадаранню" нямецкіх акупантаў, на змену якім, пасля невялікага перапынку, прыйшла ўлада польскага абшарніка, фабрыканта і жандара.

Гэтая аднароднасць асноўных этапаў і падзей прымусілі аўтара артыкула ўзяцца за гэтую працу, каб аднавіць у памяці кожнага з нас мінулае роднага краю, які б'ецца цяпер у цісках польскага фашызму.[5]

[…]

Урокі мінулага ёсць урокі для гісторыі будучыні. Не адна сотня тысяч працоўных Заходняй Беларусі жыве цяпер з цвёрдай упэўненасцю, што "будзе свята і на іх вуліцы", што ўлада рабочых і сялян у іх краіне таксама не за гарамі. Вось гэтым сотням тысяч энтузіястаў, барацьбітоў, якія рыхтуюць пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі перамогу савецкай улады ў сябе ў краіне і ва ўсім свеце — прысвячаецца гэты нарыс.

●Якуб Куніца

*[1] Аўтар піша: Шары.*

*[2] Народнага камісарыяту.*

*[3] Так аўтар называе прыхільнікаў беларускага нацыянальнага руху, Беларускай Народнай Рэспубліцы.*

*[4] Насамрэч, Ткачэвіч. Памылковы варыянт прозвішча "Ткачоў" трапіў у наступную публікацыю: Герасімчык В. Слонім. 1919 год // Газета Слонімская, 2009, № 39, 23 верасня. С. 36.*

*[5] Так у савецкай Беларусі характарызавалі палітычны рэжым у тагачаснай Польшчы, у склад якой уваходзіла Заходняя Беларусь.*



# Прыпынены выхад "Газеты Слонімскай"

У лістападзе недзяржаўныя тыднёвікі "Газета Слонімская" і *"Отдушина"* на паўгода прыпынілі выхад. Здарылася гэта пасляператрусаў, падчас якіх была забраная камп'ютэрная тэхніка, і выезду выдаўца за мяжу. "ГС" была заснавана ў 1997 годзе Віктарам Валадашчуком і з таго часу збояў у яе выхадзе не было.


gs.by

# Хведар Данілюк



На лістапад 2020-га прыпадаюць 100-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну, барацьбы беларусаў за незалежнасць БНР. Сярод случчакоў былі і слонімцы. Самы вядомы з іх — ураджэнец Сурынкі Хведар Данілюк. 27 лістапада, у дзень, калі ў 1920-м адбыўся першы бой з бальшавікамі, адзначаецца Дзень герояў.

ХРОНІКА

# Выстава ў БДУ




У пачатку лістапада ў Мінску ў Беларускім дзяржуніверсітэце адкрылася кніжная выстава "Жыровічы — пяць стагоддзяў гісторыі", прысвечаная сёлетнім юбілеям. У зале "Абанемент вучэбнай літаратуры" (праспект Незалежнасці, 4, каб. 313) з 9-й да 17-й гадзіны можна пабачыць выданні з фонду рэдкай і каштоўнай кнігі Фундаментальнай бібліятэкі БДУ — 15 кніг і часопісаў XIX-XX стагоддзяў. Уваход вольны. Выставу закрыюць 30 лістапада.

*Фота: facebook.com/bsuby*

# Масачны рэжым

У адпаведнасці з рашэннем Слонімскага райвыканкама ад 17.11.2020-га, з 18 лістапада на тэрыторыі Слонімскага раёна пачаў дзейнічаць масачны рэжым. Многія іншыя раёны краіны прынялі такое рашэнне раней.



# Хто прыдумляе назвы вуліц у Слоніме

У пачатку лістапада Слонімскі раённы выканаўчы камітэт вынес на абмеркаванне мясцовых жыхароў пытанне аб прысваенні найменняў праектаваным вуліцам горада Слоніма. Што ж прапануе тапанімічная камісія пры выканкаме? Яна хоча, каб у квартале жылой забудовы ў раёне Баранавіцкай вуліцы былі вуліцы Сустрэчная, Радужная і Цяністая, а таксама завулак Сустрэчны!

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com